беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Аднoўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

№ 25 (63)
23 верасьня
1996 г.

выходзіць у панядзелкі

ТЭЛЕПРАГРАМА

## ГАСПАДАРКА



6 Ці плянуеце Вы свой сямейны бюджэт? Якімі разэткамі ня трэба карыстацца, каб пазьбегнуць пажару?

## АФІША

9 знаёміць з рэпэртуарам менскіх тэатраў, кіно, з навінкамі відэарынку.

## СПАЖЫВЕЦ

10 Карысную інфармацыю прачытаюць у гэтым нумары аматары кілбасы «салямі», паэзіі і тэлевізара.

## АДПАЧЫНАК

12 На думку асобных замежных навукоўцаў, ад групы крыві залежаць тэмпэрамэнт і здароўе чалавека, ягоны характар... Псыхалягічны тэст «Скажы мне, якая ў цябе група крыві...» адкажа на гэтыя ды іншыя пытаньні.

Інфарматар

# Навукоўцы павінны аддавацца прэзыдэнту, а не навуцы

А.Лукашэнка праводзіць кадравыя перастаноўкі кіраўнікоў гуманітарных факультэтаў БДУ

За месяц да 75-х угодкаў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту кіраваньне найстарэйшай у Беларусі alma mater пераходзіць у рукі людзей, галоўнай «станоўчай» рысай якіх зьяўляецца не навуковы аўтарытэт, а асабістая адданасьць рэжыму. Прычына кадравых зьменаў у тым, што рэжым імкнецца напярэдадні магчымых восеньскіх хваляваньняў моладзі ўзяць пад татальны кантроль адну з найбольш небясьпечных для сябе частку грамадзтва — студэнтаў і дэмакратычна настроеных выкладчыкаў.

Працяг на старонцы 2.




СВАБОДА СЛОВА

## Рэжым забараняе «Пагоню»

Старшыня дзяржкамдруку Бельскі накіраваў «Исковое заявление» ў суд Ленінскага раёну Горадні з просьбай забараніць незалежную газэту «Пагоня».

Падставай для забароны стаў ліст Гарадзенскага абласнога савету вэтэранаў, якія просяць забараніць газэту, якая «стала рупором небольшой группы людей... противоречащей мнению подавляющего большинства людей в республике». Стыль гэтага дакумэнту выкрывае сапраўдныя агрэсіўныя пачуцьці, якія схаваліся за ветлівымі «просьбамі». Менавіта група людзей (а не газэта) «противоречит мнению» большасьці, і большасьць, як водзіцца, — «подавляет». Суду застаецца толькі высьветліць, на якім рэфэрэндуме «большинство людей в республике» выказвала сваё «мнение» пра «Пагоню».

Што да канкрэтных прэтэнзіяў, то яны не апэлююць да гістарычнай аб'ектыўнасьці, а цалкам «завернутыя» на палітычных арыентацыях аўтарытарнага рэжыму.

**(БРАТ)**

Цалкам факсыміле «Искового заявления» друкуецца на старонцы 2.

ГІСТОРЫЯ

## У лягерах, турмах, на катарзе...

*Лёс ваеннапалонных II-й сусьветнай вайны*

Адна з самых драматычных гісторыяў ваенных часоў — лёс савецкіх ваеннапалонных, які рэзка розьніўся ад лёсу іх ангельскіх, французскіх або амэрыканскіх таварышаў.

Статыстыка, дакумэнты, камэнтар — на старонцы 13.

ПАЭТ У ТУРМЕ КГБ

## Пісьменьнікі сьвету — у абарону Славаміра Адамовіча



На мінулым тыдні ў Менску закончыў сваю работу міжнародны форум «Улада і свабода слова», які ладзілі беларускі, швэдзкі і рагейскі PEN-цэнтры. На форуме прысутнічалі літаратары з многіх краінаў Эўропы і Азіі. Сярод заключных дакумэнтаў форуму быў прыняты зварот да пісьменьнікаў і журналістаў сьвету з заклікам паспрыяць вызваленьню паэта Славаміра Адамовіча. Зварот быў падпісаны прадстаўнікамі PEN-цэнтраў Беларусі, Армэніі, Грузіі, Даніі, Казахстану, Латвіі, Літвы, Нарвэгіі, Польшчы, Расеі, Украіны, Фінляндыі, Швэцыі. Гэта значыць, што пытаньне пра вызваленьне зь вязьніцы паэта паўстане ў сьценах парлямэнтаў і ўрадаў усіх краінаў сьвету.

**С.Х.**

ЛІТАРАТУРА

## Ала Дудаева па-беларуску

Вершы Алы Дудаевай, паэткі і жонкі славутага чачэнскага прэзыдэнта, упершыню пераклаў на беларускую мову Сяржук Сокалаў.

Гэтыя пераклады друкуюцца на 14-й старонцы.

## Бэстсэлеры Беларусі

Найбольш папулярныя беларускія кнігі другога кварталу 1996 г. на падставе зьвестак найбуйнейшых менскіх кнігарняў.

Старонка 16.

УКРАІНА

## Посьпех грыўны

У апошні дзень грашовай рэформы ва Ўкраіне, карбаванцы прымалі толькі ў вялікіх крамах, на поштах і ў ашчадным банку, дзе можна, напрыклад, заплаціць рахункі за тэлефон. На рынках і ў шапіках прасілі выключна грыўны.

Двухтыднёвая грашовая рэформа ва Ўкраіне і абмен карбаванца на грыўну адбыліся надзвычай удала. Згодна з інфармацыяй ураду, ужо на працягу першага тыдня было абмяняна 75 прац. карбаванцаў. Не адбылося і вялікага скачка розьнічных коштаў.

На міжбанкаўскай валютнай біржы Нацыянальны Банк Украіны цьвёрда ўтрымлівае курс новай валюты: 1,76 грыўны за даляр ЗША. Стратэгічныя рэзэрвы банку не парушаныя.

**(БРАТ)**

# Ната і старшыня

**Сяржук Сокалаў**

Нату ведаюць усе — гожая дзяўчына.
Як на Нату ні глядзі, што ні гавары,
Кожны просіцца ў сябры, ды бяз дай прычыны
Не бярэ абы каго Ната ў сябры.

А калгасны старшыня зьненавідзеў Нату,
Тож, напэўна, ён і ёсьць першы абы хто.
І з упартасьцю асла, з роспаччу стагната
У сваім калгасе ладзіць ён шапіто.

Сам штукар са штукароў выробляе штукі:
— Ната — гэта наш канец, наша сьмерць, браткі!
А у вочках палымкі ленінскай навукі,
А у думках на выбор зь фюрэра радкі.

— Наш рэліктавы калгас — ладны кус Эўропы.
Мы ад Наты зьберажом гэты ладны кус.
Мы засадзім наш абшар бульбаю і кропам,
Каб у Наты не было да яго спакус.

Мы разломім, раздамо нашыя заводы —
Толькі б Ната не прыйшла — пойдзем у ярмо,
Як ня будзе ні жыцьця, ні самой свабоды
Не паквапіцца на нас тая Ната мо.

Зашаптаў ухвальна люд: — Бацька кажа справу
Толькі й клопату у нас: не было б вайны!
З гэтай Натай сябраваць... Ната — не забава
Тыя Наты давядуць, во ўжо каб яны...

Хтосьці прагне рэзюмэ ці, прасьцей, — маралі
Ды якая там мараль з гэткім старшынём!
Амаральнасьці — хоць еш, хоць пляці каралі,
А маралі не знайсьці нават днём з вагнём.

Старшыня ня Дон Жуан, хоць і пры парадзе.
Кажуць людзі, калі плех — ласы да жанчын,
Толькі Ната на яго плюнула «ня глядзя».
Вось такая, брат, любоў. Больш няма прычын...

ПАРЛЯМЭНТ

## «Ну што, перамаглі?»

Высілкі дэпутатаў Вярхоўнага Савету ісьці ў рэчышчы законаў, магчыма, прынясуць плады.

Падобна на тое, што ў верасьнёўскі рэйтынг, які будзе праводзіць расейская «Независимая газета», каб вызначыць 50 вядучых палітыкаў месяца ў Беларусі на першыя пазыцыю «уварвецца» Віктар Ганчар. Менавіта ён як старшыня Цэнтарвыбаркаму фактычна вырашыў кар'еру міністра фінансаў Паўла Дзіка, выкрыўшы прамыя парушэньні заканадаўства з боку Міністэрства фінансаў у дачыненьні да фінансавага забесьпячэньня давыбараў у мясцовыя саветы і Вярхоўны Савет. У пятніцу, на плянарным паседжаньні В.Ганчар абвесьціў дэпутатам, што Генпракурор В.Капітан зрабіў Дзіку папярэджаньне, а на наступным тыдні матэрыял па гэтай справе будзе перададзены ў суд. Напрыканцы свайго паведамленьня В.Ганчар папрасіў дэпутатаў не накаляць жарсьці вакол пытаньняў рэфэрэндуму і давыбараў, прывёўшы ў якасьці аргумэнта ліст першага памочніка прэзыдэнта М.Мясьніковіча. Мясьніковіч даслаў на імя старшыні Цэнтарвыбаркаму афіцыйны ліст, зь якога вынікае, што вэртыкаль будзе дзейнічаць у рамках закону.

Ці азначае гэта, што Лукашэнка гатовы ісьці на кампраміс, —пакажа час. Аднак у канцы гэтага парлямэнцкага тыдня дэпутаты адчувалі сябе пераможцамі. У перапынку яны з задавальненьнем паціскалі адзін адному рукі і казалі «Ну што, перамаглі?»

**Андрэй Лапцёнак**

КАНФЭРЭНЦЫЯ

## Эўрапейская ініцыятыва зь Менску

Сёньня, 23 верасьня ў Менску распачынаецца трохдзённая Міжнародная канфэрэнцыя «Другая Эўропа: Культурная парадыгма й геапалітычная рэальнасьць». Канфэрэнцыю ладзіць Цэнтар эўрапейскіх досьледаў і культурных ініцыятываў «Эўрафорум» разам зь Беларускім Фондам Сораса.

Канфэрэнцыя фактычна зьяўляецца сустрэчаю рэдактараў часопісаў і аўтараў культуралягічных праектаў, для якіх важная тэма Сярэдняе Эўропы, мэтафарычна названая аўтарамі канфэрэнцыі «Другою Эўропай». У Менску сабраліся культуролягі зь Беларусі, Вугоршчыны, Літвы, Македоніі, Польшчы, Румыніі, Славакіі, Украіны, Харватыі, Чэхіі, а таксама зацікаўленыя праблемай назіральнікі зь Нямеччыны, Расеі, Казахстану. Іхні прыезд у гэты час у Менск —праява салідарнасьці зь беларускімі інтэлектуаламі. У выніку сустрэчы мусіць паўстаць «Сярэднеэўрапейская культурная ініцыятыва», што азначае стварэньне адкрытай супольнасьці часопісаў і інстытуцыяў, дзе будзе адбывацца ўзаемаабмен інфармацыяй, культурнай прадукцыяй, перакладамі.

Менская сустрэча — гэта першая сярэднеэўрапейская грамадзкая акцыя такога маштабу, якая сыходзіць зь Беларусі й адбываецца ў ёй.

**A.Dz.**

НАВІНКА

## Фрагмэнт сьвятла




Выйшаў першы нумар новага квартальніка, поўная назва якога «ФРАГМЭНТЫ філязофіі, культуралёгіі, літаратуры. Сярэднеэўрапейскі культурны агляд». Выдавец часопіса — «Эўрафорум», галоўны рэдактар — Ігар Бабкоў.

«ФРАГМЭНТЫ» — першы беларускі квартальнік, прысьвечаны мысьленьню ў самых розных «рэалізацыях», школах, практыках». Тут — незалежная беларуская думка, найноўшыя пераклады, клясычны беларускі правапіс.

**A.Dz.**

Аўген Касьцюшка

# Мая бабуля

Два гады як памерла мая бабуля, Алена Старавойтава. Тады я быў у Менску, па грамадзкіх справах. Я хадзіў па пакоі, трымаўся рукамі за галаву, стаяў перад картай Беларусі, адчайна-напружана глядзеў на Гомель, і ў думках зьвяртаўся да яе вобразу. Хвілін сорак адчуваў нэрвовую разбэрсанасьць. Потым засяроджаны спакой атуліў мяне, і да трох гадзінаў ночы я плённа працаваў.

Праз два дні я вярнуўся дадому. Мяне сустрэў брат. «Радасны? Зараз плакаць будзеш!» І сказаў страшнае. Я не заплакаў, нават нічога быццам не забалела, проста нешта абарвалася, глеўкае запаланіла нутро. Мяне чакалі два дні, адмыслова, зь пяці ўнукаў я быў любы, «сакалочак». У спрэчцы з старэйшым братам я замовіў вянок са сваім тэкстам па-беларуску, на «тарашкевіцы». З Гомеля труну павезьлі ў вёску, на родавыя могілкі.

Я вельмі люблю, шкадую маму, але бабуля была мне найдаражэйшы чалавек. Яна разам з прыродаю вызначыла мой сутнасны жыцьцёвы шлях, маю любоў да Радзімы, сваёй Нацыі. Да шасьці гадоў я жыў, гадаваўся ў бабулінай вёсцы. Я рос сярод малакранутай прыроды Ўсходняга Палесься, засвойваючы цудоўную мілагучную мову, рос у сялянскім асяродзьдзі, дзе тады яшчэ захаваліся нашыя песьні, абрады, звычаі. Харчаваўся простай здаровай ежаю, а самае галоўнае — мяне грэла бязьмежная любоў бабулі, клопаты сястры.

Я быў хлопчык з норавам і гонарам, забіяка, нямала турботаў і бедаў прычыніў у гаспадарцы і самой бабулі. Але тады ж у мяне была закладзена здаровая маральная аснова, славутая беларуская працавітасьць і жылістасьць. Я быў верны памочнік у гаспадарчых справах, калі трохі падрос і падужэў. Тады ўжо, з 4-5 гадоў цягаў ламачча, дошкі зь лесу і калгасу, пасьвіў кароў. Мінула колькі гадоў, а я памятаю, як 5-гадовым хлапчуком адпасьвіў цэлы дзень статак кароў і зарабіў 3 рублі і крынку малака. Памятаю вечарам, калі бабуля, седзячы на заслоне перад грубкаю, трымала мяне на каленях, гушкала свайго сакалочка і сьпявала песьні ці расказвала былі, казкі. Памятаю, як прачынаўся зранку на печы, дзе шугала полымя, а хату поўніў смачны пах дранікаў, а дзіцячую душу — радасьць і прага жыць.

Шчасныя незваротныя часы.

Бабуля нарадзілася ў гады Першай сусьветнай, хутчэй за ўсё ў 16-ым, дванаццатым дзіцём у сярэдняй сялянскай сям'і (пасьля яе было трое, з 15 дзяцей выжыла 8). Расла ўжо пры Саветах, перажыла калектывізацыю, а навала Другой сусьветнай апаліла празьмерна. На другім годзе акупацыі памерла яе мама Маланьня, яе саму, сясьцёр зь дзецьмі немцы зімой 43-га загналі ў канцлягер у Азарычах, за некалькі кілямэтраў ад вёскі. Холад, голад, зьдзекі, хваробы. У сьнежні 43-га канцлягер вызвалілі. Бабуля была аслабелая і хворая «хіньдзяю», але Бог зьлітаваўся, народнымі сродкамі вылечылася, нейкі ваенны даў ёй тушаніны з хлебам, вярнулася зь сёстрамі дахаты. Падчас вайны згубілася любая сястра Кацярына зь дзецьмі, пасьля іх шукалі, так і не знайшлі.

Зімой 44-га бабуля з адною сястрою падаліся ў «Западню» (Заходняя Беларусь), пад Жабінкаю прытуліліся рабіць у даволі заможнай сям'і селяніна-каваля. Там быў малады хлопец Мікалай, ён стаў нашым дзедам. Пажыла там каля двух гадоў, нажылі яны дзіцё — нашу маму. Але вабіла да сваіх мясьцінаў. Сабралася з заробленым дабром, клікала дзеда, але ён не паехаў, можа, гаспадаркі пашкадаваў. Вярнулася бабуля адна. Дачку гадавала, больш замуж не пайшла, хоць багата хто набіваўся. Трыццаць чатыры гары толькі пасьля вайны адрабіла ў калгасе, унучку выдала замуж, мяне з братам расьціла і потым памагала, да 72 гадоў здароўя хапала, ёй нават зайздросьцілі, а пасьля няшчаснага выпадку (упала зь печы) аслабела і 4 апошнія гады жыла ў нас у Гомлі, летам толькі ў вёсцы была.

Дзякуючы ёй, я ведаю свой радавод да пятага калена хоць па кудзелі. Як цяпер балюча, што ў тыя 4 гады бывала крыўдзіў бабулю з-за юначай гарачнасьці ды вулічнай наблатыканасьці. Але я вельмі любіў яе, бараніў, клапаціўся пра ежу, лекі, частаваў далікатэсамі. Я быў удзячны, дапытлівы слухач, гутарылі мы на сваёй мове. Бабуля мне шаптала абярэг-замовы ад хваробаў і сурокаў. Яна мела тонкую інтуіцыю, трапна характарызавала людзей, ніколі не вучылася, але добра лічыла. Яна прадчувала сваю сьмерць, прасіла, каб я не зьяжджаў надоўга. За два тыдні да яе сьмерці мне споўнілася 18 гадоў. Як быццам апякала да паўналецьця, а тады пакінула.

Памерла бабуля лёгка, без пакутаў. Пахавалі ўсё, як наказвала. Плакалі па ёй нават крыўдзіцелі.

Ганна Матусэвіч

# Дзёньнік без канца



8.09. Зноў ўбачыла бацькоў, і такі жаль агарнуў за іхнія згорбленыя сьпіны! Ці зірне на іх сонца хоць перад захадам?

9.09. На мяне раптам напала «радзінная туга», і я пішу ўсім сваякам беларускія лісты.

10.09. «Бо кожнаму, хто мае, дасца й памножыцца, а ў таго, хто ня мае, адымецца й тое, што мае». Паводле Мацьвея Сьвятое Дабравесьце. А Вы ведаеце, як гэта перакладаецца на сучасную мову? Выхаваньне павінна iсьці наперадзе адукацыі. А ў гімназіі дзецям прапануюць псыхалягічныя тэсты з мэтай выяўленьня іхняга інтэлекту. Або ўтвораць (выдатнае слова, бо мая мама ўжывае яго падчас ушчуваньня сваіх унукаў, калі тыя штосьці ўтвораць) у Менску нейкае прадстаўніцтва ад нейкага сусьветнага таварыства інтэлектаў. Ат, собсэнна, глупства ўсё гэта, панове дабрадзеі!

11.09. Вялікі Думаньнік сказаў: «Сьмерці няма, і самая большая загана — страх». Наш Максім і сьцьвердзіў гэта на прыкладзе свайго жыцьця, пакінуўшы на зямлі полымя свайго сэрца:

«У краіне сьветлай, дзе я ўміраю,
у белым доме, ля сіняй бухты,
я не самотны...»

Дарэчы, пра кнігу Яўгена Міклашэўскага «Каханьне і сьмерць, альбо лёс Максіма Багдановіча». Аўтар кажа, што такая самаахвярнасьць, якая выявілася ў Максіма, можа быць толькі ў Паэта альбо рэвалюцыянэра. Але мне думаецца, што і ў першых, і ў другіх такое зьявішча ўсё ж мае адценьне штучнасьці. Яно выклікана надзвычайнымі абставінамі жыцьця асобнага чалавека, якое супадае з трагізмам грамадзкага жыцьця. У дадзеным выпадку пабуджальнікам Максімавага таленту была ягоная хвароба. Спрадвечная, натуральная самаахвярнасьць — гэта самаахвярнасьць Маці. І Максім гэта ведаў душой, вучыўся такой самаахвярнасьці ў Маці.

У гэтым сэнсе (што ёсьць нешта ненатуральнае ў жыцьці й сьмерці Максіма) меў рацыю мой апанэнт, які некалі быў надрукаваны ў «НН». Ненатуральным, альбо ГЕРАІЧНЫМ было толькі тое, што Максім натуральную зьяву перанёс на аб'ект, якому гэтая заява ўсё ж неўласьцівая ў поўнай ступені.

Сп. Міклашэўскі называе гэтую надзвычайную самаахвярнасьць літаратурным подзьвігам. Так, хто складае гімны — той ужо бачыў Сьвятло.

12.09. Некалькі дзён Міколка жыве ў вёсцы. І плечы мае разгарнуліся, сьпіна выпрасталася. Таму й сказана: «Не ўспамінай імя Пана Бога твайго дарэмна». Не абцяжарвай настаўніка дробязнымі пытаньнямі. Выходзьце, людзі, зь дзіцячага стану! Вырастайце, беларусы, да колішніх слаўных ліцьвінаў!

13.09. Скасілі лісьце трускавак на пачатку жніўня. Яны адрасьлі і, памаладжаныя выхаваньнем і доглядам, цяпер цьвітуць. Нашто? Дзеля чаго? Ці магу я іх судзіць? Проста ім хораша й молада.

14.09. Ліецца, а мо сьвеціцца заваражальная мэлёдыя. Гукі плывуць, вабяць, чаруюць, аднекуль з Вышыні сыплюцца на мяне залатым зернем... Хруст? А можа, падалося? Але чаму гучыць ужо будзённая мэлёдыя? І гукі цякуць зямною забруджанай ракой, зь якой не нап'есься вады... Так душа ўведала ўжо тое, чаго доўга яшчэ ня мог асягнуць розум...

Паэты! Бойцеся, што ў Вас адымецца Ваш талент! Не забывайцеся, што і Хрыстос мыў ногі простым рыбакам.

17.09. Наколькі гэта «незалежная прэса» — школьнае сачыненьне? Віталік абраў вольную тэму: «За што я люблю Беларусь?» ды зьдзейсьніў у ёй дзіцячы прысуд над народам, які «здрадзіў сваім гербу й сьцягу».

18.09. Віталікава сачыненьне настаўніца прачытала перад усёй клясай.

Мая душа вісіць дзесьці паміж Небам і зямлёй... І хоць бы які Знак улавіць зь Неба, каб памагчы гэткай самай небарацы, падвешанай Айчыне.

Зьміцер Бартосік

# Карацейшы шлях



Зьбіраючыся ў Расею, я, шчыра прызнацца, больш за ўсё баяўся таго моманту, калі трэба будзе разьвітвацца. Ня толькі з роднымі ці зь любімым горадам, а, як мне думалася, зь нечым большым, што дзясяткамі каленаў зьвязвае мяне з гэтай краінай. Але ніяк не чакаў, што гэтага моманту ня будзе ўвогуле. Нават перад сабой няёмка стала, што ўжо на трэці дзень пасьля усіх сардэчных візытаў ды наведаньняў сэнтымэнтальных месцаў будзе ідыёцкае адчуваньне санаторнага адпачыньніка, якому няма куды падацца, што нават на кірмашы, дзе трэба было б зьдзіўляцца іхняй капіталістычнай «поступи» ці прынамсі радавацца за братоў, жаданьне хутчэй зьбегчы ў адваротны шлях апануе зь яшчэ большай моцай. Каб хоць неяк уціхамірыць беса здрады радзіме, я кінуўся па царквах.

У чым расейцы дасягнулі відавочнага посьпеху, дык гэта ў адраджэньні сваіх сьвятыняў. Ля былога плянэтарыя ўжо ня стрэнеш пралетарыя. Некалі закалочаныя і зарослыя павуціньнем манастыры нанова абжываюцца манахамі, якія невядома адкуль узяліся. Абыйшоўшы зь дзясятак храмаў, я ня стаў большым вернікам, але ясна адчуў адрознасьць нашых цэркваў, пры ўсёй іх адзінай падначаленасьці аднаму патрыярхату. Расейскім сьвятарам няма патрэбы лукавіць, даказваючы сваю прыхільнасьць нацыянальнаму адраджэньню. І з каталікамі ды пратэстантамі няма ім чаго дзяліць. Тут яны не канкурэнты, а хутчэй калегі. Можа таму і на тварах вернікаў менш той апантанасьці праваслаўнага атэіста, а больш унутранай засяроджанасьці, якая робіць маладую кабету са сьвечкай падобнаю да бабулькі, што ўкленчыла перад змрочнай іконай. Тут добра адпяваць нябожчыкаў і маліцца, зьбіраючыся на вайну, таму мне, не пасьпею зайсьці пад суворыя лікі сьвятых, праз хвілю хочацца бегчы на сьвежае паветра і сьвятло, а яшчэ лепш, вырвацца на шлях дадому.

Ёсьць у расейцаў прымаўка, што шлях дадому заўсёды карацейшы. Я напоўніцу пераканаўся ў яе праўдзівасьці, зь нецярплівасьцю пакідаючы за сабой кілямэтровыя слупы маскоўскай шашы.

У Багалюбаве зрабіў прыстанак, каб нарэшце ўбачыць на свае вочы самы гарманічны храм Расеі — *Покрова на Нерли*. Можа, упершыню я пераажгнаўся без тэатральшчыны, калі заўважыў ягоны адзіны купал бяз граму сусальнага золата на тле бярэзьніку і неба. Неба, пад якім любая малітва ў радасьць. Тым больш на добры шлях.

У Суздалі, былой сталіцы свайго княства, я хацеў пабачыць казку, а трапіў у мёртвы горад-музэй, дзе ў паўсотні храмаў няма каму маліцца, дзе перакошаныя крыжы на цыбулінах нагадваюць кінутыя дэкарацыі даўно адзьнятага кіна. Дзе і сярод белага дня мне стала няёмка за бразгатаньне свайго «Запарожца», які парушыў музэйную цішыню. Нават славутай суздальскай медавухі і тое не пакаштаваў. «А у нас «иностранцы», — з савецкім гонарам, нягледзячы на мяне, працадзіў рэстаранны швэйцар. Дык чаго тут яшчэ рабіць? Толькі і ехаць у «иную страну».

На маскоўскай кальцавой дарозе, сярод пылу ды скрыгату, на забітых «донельзя» ўсіх васьмі палосах я яшчэ раз упэўніўся, што сталіцам больш пасуе да твару ноч. Яна ўсё ператварае ў жывую паштоўку — умела падсьвечаныя гатэлі, у якіх хочацца спыніцца, агні рэстарацыяў, у якія цягне пакуціць, ды залітыя рэклямай праспэкты, па якіх ня стомісься шпацыраваць. Дзень прыраўноўвае сталіцу да правінцыі, якую ніколі ня шкода пакінуць, калі, натуральна, пашэнціць цэлым і здаровым саскочыць з чортавага кола МКАД.

Калі ведаеш, што за Масквой, акрамя заштатнага гораду Рослаўля і паўмёртвых вёсак, нічога цікавага не чакае на працягу паўтысячы кілямэтраў, жаданьне хутчэй іх праглынуць прымушае выціскаць з «Запарожца» ўсё, на што ён здатны. (Хіба назвы рэчак, якія больш нагадваюць лягерныя клікухі, зьвяртаюць на сябе ўвагу: Шаня, Узверь, Пыря.) Я ня думаў, што на гэтай глухой трасе могуць сустракацца інспэктары, а пры сустрэчы зь імі яшчэ раз адчуў прысутнасьць Бога, паколькі расейскіх грошай, адкладзеных на бэнзын, хапіла толькі на штраф, а бэнзыну — роўна, каб дацягнуць да першай белкалёнкі.

Сумную карціну ўяўляе зь сябе расейскі пост на мяжы. Вялікая краіна пабудавала сабе вялікі пераходны пункт з усімі яго жалезабэтоннымі атрыбутамі, а маленькая «противная» суседка так і ня дала ім пакарыстацца, і гуляе па памяшканьнях расейскай мытні беларускі вецер і дым ад гарэлых тарфянікаў. Ці то ад таго дыму, якім завалакло дарогу, а хутчэй ад жаданьня пачуцца цывілізаваным грамадзянінам, мне хацелася не парушаць правілаў па праезьдзе мяжы ні на грам. З выкананьнем самых недарэчных абмежаваньняў. І хай я прадчуваю тое ўблюдзтва, якое пальецца на мяне з заўтрашняга эфіру, тут мне ўсё ж дыхаецца вальней, нягледзячы на «дым отечества», які зусім не салодкі.

Андранік Антанян

# Магілёўскія зацемкі



Гляджу радыё, слухаю тэлевізар. Гэтыя два заняткі могуць давесьці каго заўгодна. Мяне, напрыклад, ужо давялі. Пры слове «камбайн» і «ураджай» мая рука цягнецца да аўтамата. Гэх, няма ў мяне аўтамаціка. Няма. І я мушу мірыцца з дурной хатняй завядзёнкай — урубаць радыёкропку на поўны гук і трымаць яе ў такім стане ад ранішняга гімну да начнога. Мы, бэралусы з братняю Русьсю... На працягу сутак, у мяне ёсьць толькі дзьве аддушыны. Першая — падчас тэхнічнага перапынку з чатырнаццаці нуль-нуль да пятнаццаці нуль-нуль і, само сабою, пасьля паўночы да шостай раніцы.

Гадзіньнік паказвае 14:15. У хаце цішыня. Я ляжу на канапе й чытаю «Советскую Белоруссию». Ідылія-элегія. Раптам падвешаная на сьцяну скрыня пачынае крахцець, сіпець, і адтуль: «Луку — на муку». Далей мой любімы «Sex Pistols» «Anarchy in the U.K.», а пасьля песьня тых жа самых байцоў пра тое, як яны зычаць брытанскай Каралеве ніякай будучыні. А за песенькамі антыпрэзыдэнцкая прапаганда, перасыпаная нецэнзуршчынай і песенькамі «Exploited». Punk rock — never stops.

Назаўтра — тое самае.

Яшчэ праз дзень ў чатырнаццаць нуль-нуль на хвалю вылазіць самы галоўны тэхнічны начальнік магілёўскага радыёвяшчаньня, жаліцца на праблемы й на хуліганаў, якія на тэрыторыі ўсёй вобласьці Магілёўскай прамываюць мазгі насельніцтву, і замінаюць нармальнаму функцыянаваньню ягонай канторы. Маўляў, дарагія магілёўцы, дапамажыце адшукаць гнюсных адшчапенцаў. Чакай, дзядзька! Знойдзем, павяжам і табе здадзім!

* * *

«Дунькін клюб». Як па-людзку называецца гэтая ўстанова культуры, ня ведаю. Дом Культуры Швэйнікаў, напэўна. Але не гарантую. «Піонэры» выцягнулі на сцэну дзьве хілыя калёнкі й лабаюць свае песенькі. Называецца ўсё гэта «Моладзь супраць СНІДу». Масавая раздача прэзэрватываў. Пад гэтую дудку й набілася ў залю моладзь. Групка грае так сабе. Песенькі так сабе. У залі поўна такіх жа недамеркаў і недаросткаў. Яшчэ між шэрагаў ходзяць амонаўцы й правяраюць дакумэнты. У каго няма пашпартоў, тых забіраюць у пастарунак. Праз паўгадзіны народ вяртаецца назад. Там іх вызваляюць ад назапашаных кандомаў і, не высьвятляючы «хтоштодзейяк», выпускаюць назад. Шоў павінна працягвацца. Хто са мною ня згодны?..

No smoking

# Тыдзень небясьпечнага паленьня

Джо Куінан

Нейк нядаўна я запаліў мальбарыну ды пайшоў на Таймс Сквэр у стрыптызны комплекс. Я зайшоў у адну з будак ды ўставіў даляравую банкноту. Калі паднялася шкляная перагародка і перад мною зьявілася экзатычная танцорка, я выдыхнуў на яе вобляка дыму.

«Фуу!!!» — зашыпела дзяўчына ўсярэдзіне будкі, з агідаю адганяючы дым. Калі смурод расьсеяўся, яна нахілілася ды вельмі няветліва сказала: «Мы працуем за чаявые: тры даляры за распрананьне, пяць даляраў за дакрананьне».

— Ты ня супраць, калі я буду паліць? — пацікавіўся я.

— Рабі што хочаш, — пасьміхнулася яна. — Гэта тваё відовішча.

Я даў ёй пяцёрку, з паўхвіліны пазіраў яе «танец» ды пайшоў. Я быў надзвычай зьбянтэжаны. Перад мною была жанчына, што мела больш татуіровак, чымся ўвесь сёмы флёт ЗША, якая працуе стрыптызэркай у самым брыдкім раёне Манхэтана, але нават яна глядзела на мяне, курца, з пагардай. У гэты момант я зразумеў, што кампанія, скіраваная супраць паленьня, аказалася няўмольнай бязьлітаснай сілай, якая пранікла нават ў самыя нізкія пласты амэрыканскага грамадзтва.

Мая прыгода ў стрыптыз-будцы была кульмінацыяй доўгага тыдня, праведзенага ў розных грамадзкіх ды прыватных месцах па ўсім Нью-Ёрку. Мой тыдзень курца распачаўся з таго, што я зайшоў у Сіцібанк на куце 64-ай вуліцы ды Мэдысан Авэню, каб зьняць трохі наяўных грошай. Нягледзячы на тое, што надпіс «НЕ ПАЛІЦЬ» быў ясна бачны на сьцяне, я запаліў мальбарыну ды стаў у чаргу. Каржакаваты «блакітны каўнерык» (кваліфікаваны рабочы. — У.Б.) гішпанскага выгляду, стаяў перада мною, але ён праігнараваў банкаўскі аўтамат. Я ўставіў маю крэдытную картку і ў гэты час разьюшана дзьмухаў дымам ды сьцярушваў попел у напрамку шыльдачкі з надпісам «НЕ ПАЛІЦЬ».

Аўтамат паведаміў, што ня можа счытаць маю картку. Шкада. Хіба машына ведала, што я курэц? А можа Сіцібанк, жадаючы пазбавіцца ад усіх кліентаў-курцоў, абсталяваў грашовыя аўтаматы антыканцэрагеннымі сэнсарамі, што не дазваляюць курцам атрымліваць грошы, каб тыя ня мелі на што практыкаваць сваю звычку? Ня ведаю.

Што я ведаю, дык гэта тое, што аўтамат не працуе. Але нічога, бо вызваліўся яшчэ адзін. Я кінуўся да яго, упэнены ў тым, што зьдзейсьніў два антысацыяльныя ўчынкі: паленьне ды ўлез без чаргі. Я кінуў недапалак на падлогу ды запаліў яшчэ адну цыгарэту. Я злавіў позірк гішпанца, калі той заступіў маё месца. Ён меў усе падставы выйсьці зь сябе, паколькі я ўскочыў уперад яго, але ён зусім не раззлаваўся. Мы абмяняліся змоўніцкімі позіркамі. Ён зразумеў мой намёк. Цяпер і ён паліў.



Калі я заходзіў у розныя шыкоўныя крамы на Мэдысан Авэню з цыгарэтай у зубах, то ведаў, што мяне папросяць не паліць. Але больш мне было цікава тое, ЯК гэта зробяць. Ці ветліва яны папросяць мяне не паліць? Ці са мной абыйдуцца як зь недачалавекам ды скажуць, каб я вымятаўся вон?

У першым выпадку ўсё адбылося надзвычай ветліва. Я зайшоў у сувэнірную краму Мэтраполіан Опэры ды пачаў расплёўваць атруту па кампакт-дысках з Равэлем. Празь некалькі сэкунд да мяне падышоў добра апрануты чалавек ды прашаптаў: «Прабачце, тут нельга паліць».

Ён вымавіў гэта з усьмешкай на твары, трохі прыжмурыўшы вока, не жадаючы спужаць чалавека, які, нягледзячы на кепскія звычкі, выглядаў на таго, хто напэўна хоча пераплаціць за вялікі набор кампакт-дыскаў. Усьмешка не пакінула ягонага твару нават і тады, калі я заўважыў: «Марыё Ланца паліў!» Магчыма гэта было так, а магчыма й не.

А вось у іншай краме — «Канрад і Кампанія» я не заўважыў ніякіх усьмешак, калі завітаў туды з уінстанам у зубах. Як толькі я пачаў патыхаць канцэрагенамі на сьпелыя бэльгійскія памідоры, я адразу ж быў аб'яўлены пэрсонай нон-грата. Да мяне падышла гандлярка ды сказала: «Ты ня можаш тут паліць. І ты мусіў бы гэта ведаць!»

Так, я мусіў бы гэта ведаць. Я быў нетактоўны, няўважлівы, нявыхаваны, нядбайны. З другога боку, я не паводзіў сябе як сын Хама, Чарльз Мэнсан ці Пол Пот. Я ня вынайшаў самаробнага ядравага прыстасаваньня і не пусьціў усё насельніцтва Афрыкі пад нож. А яна абышлася з мною як зь нейкім...

Гэтае здарэньне задало тон для ўсяго тыдня. Вымаляваліся дзьве мадэлі. Адна — ветлівыя джэнтльмэныгаспадары ў салідных установах, што не вышыбалі мяне за дзьверы. І другая —жанчыны, што гатовыя былі выдзерці мне вочы.

Аднаго дня я распачаў шпацыраваць у паўночным напрамку па Мэдысан Авэню, завітваючы ў кожную краму, што мела французскую назву ці імя. Я спрабаваў удаваць зь сябе француза, бо французы дымяць як паравозы. Як бы ня так! У Au Chat Botte не захацелі, каб я абкурваў саракадаляравыя дзіцячыя чэпчыкі. У Yves St. Laurent не захацелі, каб я дыміў на гальштукі. А гаспадар Godiva Chocolatier паказаў мне на надпіс «НЕ ПАЛІЦЬ» такім жэстам, які на любой мове азначаў, што я безнадзейны блазан. У краме тканін Pierre Deux касірка паглядзела на незапалены цьвік ад труны, што вытыркаўся з маіх вуснаў, з такім выразам, які недвусэнсоўна казаў: «Толькі паспрабуй, mon vieux». І толькі ў гастраноме Madison Marche на 75-ай вуліцы я здолеў бесьперашкодна папаліць. Натуральна, што Madison Marche належаў карэйцам.

Сумна тое, што калі ўсе, хто выступае супраць паленьня, лічаць сябе саюзьнікамі ў маральным ды экалягічным крыжовым паходзе, то курцы не адчуваюць такой еднасьці зь іншымі курцамі. Курцы могуць мець змушаную салідарнасьць — у барах, на п'янках, у прыбіральнях, але глыбока ў душы яны не адчуваюць інстынктыўнай салідарнасьці адзін з адным. Я зразумеў гэта, калі заўважыў пахмурную кабеціну, што адну за адной паліла цыгарэты на рагу 65-ай ды Мэдысан Авэню, і падыйшоўшы да яе з цыгарэціна ў зубах, прамармытаў ёй: «Нас засталося ня так і шмат?» Яна проста завярнулася ды сышла.

Працяг на старонцы 16.

# Расклад хваробаў на заўтра

Сусьветная Арганізацыя Аховы Здароўя апублікавала вынікі сваіх пацігадовых дасьледаваньняў пад назвай «Глябальны цяжар хваробаў». Зьвесткі пра 107 хваробаў і 483 фактары, якія ўплываюць на здароўе і працягласьць жыцьця, даюцца ў разьбіўцы па рэгіёнах і асобных краінах.

Дасьледчыкі прадказваюць агульны рост дабрабыту і зьмяншэньне тых хваробаў, якія паходзяць ад жабрацтва. Хваробы на страўнік і кішэчнік, якія ў 1990 годзе былі прызнаныя другой па важкасьці прычынаю сьмяротнасьці, праз чвэрць стагодзьдзя зоймуць дзявятае месца. Хваробы немаўлятаў, што прыводзяць да сьмерці, пяройдуць з 3-га на 11-ае месца.

Людзі будуць лепей есьці і апранацца. Сьвет зробіцца сытнейшы і больш утульны, але не спакайнейшы і больш прыемны. Гвалт, які ў 1990 годзе знаходзіўся па-за межамі двух першых дзясяткаў, падымецца на 12-ае месца, а яшчэ на дзьве прыступкі вышэй апынецца жахлівы AIDS.

У 1990 годзе першая тройка прычынаў сьмяротнасьці выглядала наступным чынам: запаленьне лёгкіх, захворваньні на страўнік і кішэчнік, хваробы немаўлятаў. У 2020 годзе сьпіс узначаляць сардэчна-сасудзістыя хваробы. Затым пойдуць жорсткія дэпрэсіі (прадказваецца рэзкі рост самагубстваў) і сьмерць ад няшчасных выпадкаў.

У цэлым насельніцтва плянэты моцна пастарэе, бо супадуць дзьве тэндэнцыі: зьніжэньне нараджальнасьці і павелічэньне працягласьці жыцьця. Асабліва рэзкі рост чакае Афрыку. Тут жанчыны будуць жыць на 13 гадоў болей. Прапорцыя паміж насельніцтвам ва ўзросьце да і пасьля 45-ці гадоў павялічыцца на 200 працэнтаў — натуральна, на карысьць сталых людзей.

Паленьне, якому адводзілася 2,6 працэнта сьмяротных вынікаў у 1990 годзе, павялічыць сваю долю да 10 працэнтаў. Але гэта ў цэлым па плянэце. У краінах былога СССР і кантынэнтальным Кітаі, дзе створана моцная база спажываньня тытуню, доля такой сьмяротнасьці будзе значна вышэйшая.

Праз 25 гадоў будуць жыць болей усе людзі, акрамя расейскіх мужчынаў. У лепшым выпадку, яны крыху «падымуцца» да ўзроўню 1990 году. Жорсткія традыцыі паленьня прывядуць да таго, што ў 2020 годзе ў Расеі памрэ ад хваробаў, зьвязаных з гэтай звычкай, у чатыры разы болей мужчынаў, чым памірае цяпер.

*Паводле газэты «Известия».*

# Kalandar

## 23 vieraśnia

U hety dzień... naradzilisia: baranesa Orczy (1865-1947), vuhorskaja piśmieńnica; John Boyd Orr (1880-1970), šatlandzki bijolah, laŭreat Nobeleŭskaj premii miru ŭ 1949 h.; amerykanski kinaaktor Mickey Rooney (1920).

## 24 vieraśnia

U hety dzień... naradzilisia: Cyprian Norwid (1821-1883), polski paet, jaki pamior u prytułku dla žabrakoŭ u Paryžy i tvorčaść jakoha była acenienaja tolki ŭ XX st.; Francis Scott Fitzgerald (1896-1940), amerykanski piśmieńnik, nazvany tak u honar aŭtara amerykanskaha nacyjanalnaha himnu; Howard Walter Florey, paźniej baron Florey of Adelaide (1898-1968), aŭstralijski navukoviec, jaki ŭ 1945 h. za adkryćcio penicylinu atrymaŭ razam z Alexandram Flemingam i Ernstam Chainam Nobeleŭskuju premiju ŭ halinie medycyny.

## 25 vieraśnia

U hety dzień... ŭ 1066 h. karol Anhlii Harold II pieramoh karala Narvehii Haralda Hardradu ŭ bitvie pad Stamford Bridge ŭ Yorkchir (Hardrada i brat karala Harolda Tostig zahinuli na poli boju).

Naradzilisia ŭ hety dzień: Michał Kleafas Ahinski (1765-1833), kampazytar i palityk; amerykanski piśmieńnik William Faulkner (1897-1962), laŭreat Nobeleŭskaj premii ŭ 1949 h.; rasiejski kampazytar Dmitrij Šostakovič.

## 26 vieraśnia

U hety dzień... u 1580 h. Francis Drake i jahonyja piaćdziasiat marakoŭ na karabli «Golden Hind» jak pieršyja anhielcy apłyli vakoł śvietu.

Naradzilisia ŭ hety dzień: francuski mastak Louis Andre Theodore Gericault (1791-1824); Ivan Pavłov (1849-1936), rasiejski fizyjolah, pieršy rasiejec, jaki atrymaŭ Nobeleŭskuju premiju (u 1904 h.); Barnes Wallis (1887-1979), brytanski inžyner, vynachodca «skačučych» bombaŭ, užytych u 1943 h.; brytanski paet amerykanskaha pachodžańnia Thomas Stearns Elliot (1888-1965); amerykanski kampazytar George Gershwin (1898-1937).

## 27 vieraśnia

U hety dzień... u 1605 h. vojski Rečy Paspalitaj pad kamandaj Jana Karala Chadkieviča pieramahli švedaŭ pad Kircholmam. U 1612 h. u Krakavie pamior Piotra Skarha. U 1825 h. George Stephenson kiravaŭ svaim ulasnym paravym lakamatyvam padčas adkryćcia čyhunačnaj linii z Stockton da Darlington, pieršaj rehularnaj pasažyrskaj linii.

Naradzilisia ŭ hety dzień: Samuel Adams (1722-1803), amerykanski palityk, adzin z syhnataraŭ Deklaracyji Niezaležnaści; Louis Botha (1862-1919), vajskavodca burskich siłaŭ i pieršy premjer Paŭdniovaj Afryki; anhielski kampazytar Cyril Scott (1879-1970).

## 28 vieraśnia

U hety dzień u 1864 hodzie na mitynhu ŭ Londanie byŭ zasnavany Pieršy Internacyjanal.

Naradzilisia ŭ hety dzień: anhielski baksior John Jackson, jakoha nazyvali «Gentleman Jackson» (1769-1845), jaki na praciahu vaśmi hadoŭ byŭ čempijonam Anhlii i pryznanym nastaŭnikam svajho «klasyčnaha mastactva», siarod jahonych vučniaŭ byŭ i lord Byron; Prosper Merimee (1803-70), francuski piśmieńnik; francuskaja kinaaktorka Brigitte Bardot (1934).

## 29 vieraśnia

U hety dzień... u 1829 h. na vulicach Londana źjavilisia pieršyja patruli rehularnaj palicyji (palicyjantaŭ prazvali «bobbies» ad imia Roberta Peela, ministra ŭnutranych spravaŭ).

Naradzilisia ŭ hety dzień: Horatio Nelson (1758-1805), brytanski admirał, jaki ŭvajšoŭ u historyju, zahinuŭšy ŭ bitvie pad Trafalgar; Enrico Fermi (1901-54), italjanski navukoviec, jaki pabudavaŭ pieršy amerykanski atamny reaktar, jon pieršy italjaniec, jaki atrymaŭ Nobeleŭskuju premiju ŭ halinie fizyki (u 1938 h.); polski prezydent Lech Wałęsa (1943), laŭreat Nobeleŭskaj premii miru ŭ 1983 h.

## НАЙБУЙНЕЙШЫЯ ЦЭНТРЫ СУСЬВЕТНАГА БІЗНЭСУ

# GENEVE



Жэнэва — адзін з самых прывабных і прыгожых гарадоў Эўропы. Разьмешчаная ў сэрцы Эўропы, яна застаецца найбольш зручнай базай для больш чым 200 буйных міжнародных установаў. Жэнэва — эўрапейская рэзыдэнцыя Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў, а таксама дае дах такім установам, як Міжнародны Чырвоны Крыж, Міжнародная Арганізацыя Працы, Сусьветная Арганізацыя Аховы Здароўя і Сусьветнае Мэтэаралягічнае Бюро.

У 1953 годзе Жэнэва стала штаб-кватэрай CERN — Эўрапейскага цэнтру ядзерных выпрабаваньняў. Тут былі ажыцьцёўлены найбольш удалыя пэрспэктыўныя распрацоўкі ў галіне ядзернай фізыкі.

У Палэкспа, велізарнай выстаўнай залі ў заходняй частцы гораду, штогод адбываюцца прэстыжныя аўтасалёны і іншыя гандлёвыя выставы.

Пры ўсім сваім міжнародным прэстыжы Жэнэва, аднак, толькі невялікі горад, насельніцтва якога не перавышае 170 тыс. чалавек. З гледзішча культуры й камэрцыі яна дае Вам усё, што *можна толькі пажадаць*.

"НН" прапануе практычную інфармацыю для наведнікаў гэтага гораду.

**ПРАЦОЎНЫЯ ГАДЗІНЫ**

**з панядзелка да пятніцы:**

*Офісы*: 8 — 12 і 13.30 — 17. *Банкі*: 8.30 — 16.30. *Пункты абмену валюты* ў аэрапортах і на вялікіх вакзалах працуюць штодня да 22.00. *Крамы*: 8 — 12.15 і 13.45 — 18.30, у суботу да 11 гадзінаў.

**АФІЦЫЙНЫЯ СЬВЯТЫ (НЕПРАЦОЎНЫЯ ДНІ):**

1-2 студзеня — Навагоднія сьвяты;
9 красавіка — Перадвелікодная Пятніца;
11 красавіка — Велікодная Нядзеля;
12 красавіка — Чысты Панядзелак;
20 траўня — Ушэсьце;
30 траўня — Сёмуха;
31 траўня — Тройцын Панядзелак;
1 жніўня — Дзень Швэйцарскай Канфэдэрацыі;
24 сьнежня — Куцьця;
25 сьнежня — Каляды;
26 сьнежня — Першы дзень Калядаў;

**МЫТНЫЯ ІНСТРУКЦЫІ**

Безпадатковаму ўвозу падлягаюць наступныя рэчы: асабістыя рэчы, прадукты (на адзін дзень), 2 л алькагольных напояў мацункам да 7,5 градусаў ці 1 л — мацункам болей за 7,5 градусаў, 400 цыгарэтаў, 100 цыгараў ці 500 г тытуню (пры ўвозе з эўрапейскіх краінаў — палова гэтае нормы), падарункі на суму, якая не перавышае 100 швэйцарскіх франкаў.

**ГРАШОВАЕ АБАРАЧЭНЬНЕ**

Швэйцарскі франк (SF) падзяляецца на 100 сантымаў. Манэты: 5, 10, 20, 50 сантымаў; банкноты вартасьцю ў 10, 20, 50, 100, 500, 1000 франкаў.

**МОВА**

Швэйцарыя — шматмоўная краіна. Дзяржаўныя мовы: нямецкая ў Паўночнай, Цэнтральнай і Ўсходняй Швэйцарыі, француская ў Заходняй Швэйцарыі, італьянская ў Паўднёвай Швэйцарыі, рэтараманская ў Паўднёва-Ўсходняй Швэйцарыі. Швэйцарыя падзяляецца на 26 кантонаў, горад Жэнэва належыць да кантону Жэнэва, дзе галоўная гутарковая мова — француская.



**ЗНАКАМІТЫЯ ШВЭЙЦАРСКІЯ ПРЫВАТНЫЯ ШКОЛКІ**

Цудоўныя Швэйцарскія краявіды, разьмяшчэньне краіны ў цэнтры Эўропы, моўная і культурная разнастайнасьць, палітычная стабільнасьць, сучасныя турыстычныя інфраструктуры, і, апроч таго, шырокі падыход да адукацыі і культуры ператварылі Швэйцарыю — раней, чым якую іншую краіну, — у ідэальнае месца для разьвіцьця прыватнай школьнай адукацыі. Навучаць сваіх дзяцей у закрытай Швэйцарскай школе стала марай для многіх бацькоў ня толькі ў Эўропе, але і ва ўсім сьвеце.

Апошнім часам у гэтых школах пачало навучацца ўсё болей і болей дзяцей з СНД. Шырокая праграма навучаньня, інтэнсіўны курс некалькіх замежных моваў, насычаная спартовая праграма — галоўныя асаблівасьці міжнародных Швэйцарскіх школак, якія лічаць найлепшымі ў сьвеце.

Усю неабходную інфармацыю пра прыватныя школкі Вы маеце магчымасьць атрымаць у Жэнэўскім Бюро інфармацыі SWISS PRIVATE SCHOOL ASSOCIATION на адрасе: SERVICE SCOLAIRE, CASE POSTALE 43 CH-1211 GENEVA.

**ВЫТВОРЧАСЬЦЬ ГАДЗІНЬНІКАЎ**

Гэта адна з найстарэйшых галінаў Швэйцарскай прамысловасьці, значная частка прадукцыі якой ідзе на экспарт. Пачатак вытворчасьці гадзіньнікаў быў пакладзены ў кантоне Юра. У цяперашні час яна пераважна месьціцца ў Жэнэве і карыстаецца бліскучай рэпутацыяй ва ўсім сьвеце.

**ГАТЭЛІ**

Усяму сьвету вядома Швэйцарская гасьцінч



насьць. Не выпадкова большасьць вядомых гатэляў знаходзіцца ў гэтай краіне. Гэта абумоўлена тым, што менавіта ў Швэйцарыі разьмяшчаюцца знакамітыя інстытуты для навучаньня гатэльнаму мэнэджмэнту, сэрвісу і харчаваньню.

Жэнэва шмат укладае ў гэтую галіну: разам з шыкоўнымі гатэлямі тут нямала гатэляў першаклясных і проста добрых — салідных, зручных для справавых людзей. Сярод супэргатэляў вылучаецца пяцізоркавы *HOTEL LE RICHMOND JARDIN BRUNSWICK*. Пачатна ад 1875 г. чатыры пакаленьні сямейства Армледэр аддавалі ўсе сілы й фантазію на ўтрыманьне гэтага шыкоўнага гатэлю. Ён мае ў сабе замкнёнасьць прыватнага клюбу і чароўныя крозы тэатра (зь лёгкім напамінам пра закулісныя таямніцы). Кожны нумар, кожныя апартамэнты прыбраныя ў адпаведным стылі, што ставарае ўражаньне камфорту і вытанчанасьці. Адзінарны нумар — 390-450 SF. Нумар на дваіх — 500-600 SF. Тэлефон: 022/731 1400. Факс: 022/7316709.

*BEU-RIVAGE ******

*13, quai du Mont-Blanc.*

Разьмешчаны проста на беразе Жэнэўскага возера. Гэта гатэль са старадаўнімі традыцыямі, нядаўна быў рэканструяваны. Адзінарны нумар — 260-300 SF. Двайны нумар — 360-410 SF. Тэлефон: 022/7310221. Факс: 022/7389847.

*DES BERGUES ******

*33, quai des Bergues.*

Шыкоўны, разьмешчаны ў цэнтры гатэль з выглядам на Жэнэўскае возера, побач зь бізнэс- і гандлёвым цэнтрам гораду. Адзінарны нумар — 280-315 SF. Двайны нумар — 350-390 SF. Тэлефон: 022/7315050. Факс: 022/7321989.

*BRISTOL ******

*10, rue du Mont-Blanc.*

У цэнтры гораду. Адзінарны нумар — 245-300 SF. Двайны нумар — 265-350 SF. Тэлефон: 022/7323800. Факс: 022/7389039.

*INTERCONTINENTAL ******

*7-9, chemin du Petit-Saconnex.*

Гатэль-люкс, разьмешчаны ў фэшэнэбэльным квартале недалёка ад Эўрапейскай рэзыдэнцыі ААН, новага выстаўнага цэнтру і Дому Канфэрэнцыяў. Адзінарны нумар — 210-240 SF. Двайны нумар — 250-280 SF. Тэлефон: 022/7346091. Факс: 022/7342864.

*NOVA HILTON INTERNATIONAL ******

*19, quai du Mont-Blanc.*

Шыкоўны сучасны гатэль, разьмешчаны на беразе Жэнэўскага возера, зьвернуты фасадам да Манбляну; побач з цэнтрам гораду і бізнэс-раёнам. Адзінарны нумар — 290-395 SF. Двайны нумар — 390-495 SF. Тэлефон: 022/7319811. Факс: 022/7386432.

Гатэлі першае клясы:

*AMBASSADOR *****

*21, quai de Bergues.*

У самым цэнтры гораду, з выглядам на Рону. Адзінарны нумар — 125-150 SF. Двайны нумар — 230-250 SF. Тэлефон: 022/7317200. Факс: 022/7389080.

*AUTEIL *****

*33, rue de Lausanne.*

Адзінарны нумар — 147-170 SF. Двайны нумар — 215-235 SF. Тэлефон: 022/7314400. Факс: 022/7387492.

*DE BERNE *****

*26, rue de Berne.*

Разьмешчаны ў бізнэсовым раёне гораду. Адзінарны нумар — 155-180 SF. Двайны нумар — 195-220 SF. Тэлефон: 022/7316000. Факс: 022/7311173.

*SUISSE ****

*10, place Cornavin.*

Разьмешчаны насупраць чыгуначнага вакзалу, за некалькі хвілінаў хадзьбы ад Жэнэўскага возера. Адзінарны нумар — 130-145 SF. Двайны нумар — 145-160 SF. Тэлефон: 022/7326630. Факс: 022/7326239.

*ASTORIA ****

*6, place Cornavin.*

Разьмешчаны насупраць вакзалу. Адзінарны нумар — 105-125 SF. Двайны нумар — 135-160 SF. Тэлефон: 022-7321025. Факс: 022-7317690.

*INTERNATIONAL ET TERMINUE ****

*20, rue des Alpes.*

Адзінарны нумар — 65-95 SF. Двайны нумар — 90-135 SF. Тэлефон: 022/7328095. Факс: 022/732184.

Як і іншыя эўрапейскія гарады, Жэнэва мае шмат танных пансіёнаў, якія ганарацца сваёй ахайнасьцю і абслугоўваньнем.

**ЧАЯВЫЯ**

Плата за абслугоўваньне заўсёды ўключаецца ў рахунак рэстарана ці гатэлю, а таксама пры аплаце таксоўкі. Дадатковыя чаявыя не патрабуюцца, хаця, вядома, будуць прынятыя з удзячнасьцю.

**КРАМЫ**

У чароўнай Жэнэве можна знайсьці нямала крамаў ад невялікіх дарагіх boutiques да велізарных унівэрмагаў, якія ўражваюць колькасьцю мясцовых і імпартных тавараў цудоўнае якасьці. Вы можаце набыць тут усё, адусюль, усё самае лепшае. Калі Вы жадаеце набыць добры гадзіньнік, вытанчаныя ювэлірныя вырабы, Жэнэва менавіта тое месца, якое Вам трэба. Шыльды на вуліцах так і блішчаць знакамітымі імёнамі — ад Rolex, Piaget, Patek Philippe і Davidoff да Gucci і Hermes. Дарагія крамы разьмешчаны ў цэнтры гораду на rue de Phone, rue de Marche, rue Ceard. У Жэнэве знаходзіцца галоўнае прадпрыемства знакамітай гадзіньнікавай фірмы Patek Philippe. Дэманстрацыйныя залі і фірмовая крама Patek Philippe служаць месцам сустрэчаў для аматараў гадзіньнікаў з усяго сьвету: rue du Rhone 41, quai General-Guisan 22.

Упрыгожаная ручной вышыўкай сталовая бялізна, фартухі, насоўкі сапраўды вартыя Вашай увагі (а таксама тых коштаў, якія за іх прызначаюць). Швэйцарскія вайсковыя кішэнныя нажы розных памераў і коштаў будуць прыемным і карысным сувэнірам.

Большасьць крамаў разьмешчана ў цэнтры гораду. Самы новы гандлёвы цэнтар Жэнэвы Confederation Centre на rue de la Confederation 8 прапануе пакупнікам шырокі выбар тавараў.

**У ЧАСЫ АДПАЧЫНКУ**

Жэнэва адкрые перад Вамі багатую панараму культуры і мастацтва. Агляд разнастайных музэяў, наведваньне тэатраў і опэрнай залі зойме ў Вас багата часу. Знакамітыя артысты з усяго сьвету дапамогуць цудоўна скончыць Ваш дзень. Клясычная музыка карыстаецца попытам у Жэнэве з часоў Рэфармацыі, тут даюць больш за 700 канцэртаў на год. Каля 300 джаз/рок выступаў на год яшчэ больш абцяжараць Ваш выбар праграмы на вечар.

Калі ж Вы жадаеце забаваў іншага кшталту, Вам варта пашукаць шчасьця ў Grand



Casino на quai du Mont-Blanc.

**ДЗЕ МОЖНА СМАЧНА ПАЕСЬЦІ**

У Жэнэве шмат рэстарацыяў, густоўная кухня і незабыўная атмасфэра добразычлівасьці, якая прывабляе наведнікаў. Далей мы падаем адрэсы некалькіх рэстарацыяў з цудоўнай кухняй.

*Les Continents, тэл. 3216091, 7-9 Petit-Saconnex.* Рэстарацыя клясы люкс для вячэры пры сьвечках.

*Le Bearn, тэл. 32100284, quai de la Poste.* Цудоўная рэстарацыя клясы люкс.

*Le Cygue, тэл. 731981119, quai du Mont-Blanc.* Стыльная рэстарацыя з выглядам на Жэнэўскае возера.

*Le Patio, тэл. 736667519, boulevard Helvetique.* Утульная рэстарацыя ў стылі бістро.

*Le Saint-Germain, тэл. 328262461, boulevard Saint-Georges.* Цудоўная рэстарацыя, якая спэцыялізуецца на стравах з рыбы і малюскаў.

*Yse-Fung Hotel, la Reserve, тэл. 7741741301, route de Lausanne, 1293 bellevue.* Выдатная кітайская кухня.

Акрамя рэстарацыяў вышэйшае клясы ёсьць мноства недарагіх і невялікіх страўняў, дзе добра і разнастайна кормяць, дзе Вы можаце павячэраць, згубіўшы ня вельмі шмат часу і атрымаўшы асалоду ня толькі ад ежы, але і ад традыцыйна гасьціннага прыёму.

**НАЧНОЕ ЖЫЦЬЦЁ**

Прыемным штрыхам Вашага вечара можа стаць наведваньне бара, дыска- ці начнога клюбу.

**Бары:** *Bar American* — 31 boulevard Helvetique; *La Couple* — 116 rue du Rhone; *Piano Bar* — 15 rue Pierre Fatio.

**Дыскатэкі:** *Gran Casino Discotheque* — rue du Mont-Blanc, 19; *La Byblos* — r.d.i. Boulangerie, 3; *Velvet Club* — rue Jeu de l'Arc, 7; *Whisky Bar* — rue du Prince 9-11.

**Начныя клюбы:** *La Garconniere* — pl.Bemont, 22; *Moulin Rouge* — av. de Mail, 1; *Palasis Mascotte* — rue de Berne, 43; *Pussy Cat* — rue de Glacisde rive, 15.

Жэнэва Вас чакае.

# У лягерах, турмах, на катарзе...

## *Лёс ваеннапалонных II-й сусьветнай вайны*

Тыя страшныя ваенныя гады збольшага яшчэ не асьветленыя ў гістарычных дасьледаваньнях. Лягчэй і прасьцей казаць пра перамогі. Апісваць шматколернасьць пераможнага салюту ў гонар выйграных баёў, безумоўна, больш прыемна, чым горыч паразаў. Распавесьці пра апошні дзень вайны — задача больш высакароднае, чым пра яе трагічны пачатак.

Адна з самых драматычных гісторыяў ваенных часоў — лёс савецкіх ваеннапалонных, які рэзка розьніўся ад лёсу іх ангельскіх, францускіх або амэрыканскіх таварышаў.

Але страшна ня тое, што мы ніколі не даведаемся сапраўдных статыстычных зьвестак чалавечых стратаў, страшна іншае —людзей не шкадавалі. Зьдзіўляцца гэтаму не выпадае. Бясконцы сьпіс мільёнаў бязьвінна забітых у гады даваенных рэпрэсіяў быў працягнуты гэткім жа доўгім сьпісам неапраўданых стратаў, асабліва напачатку вайны.

У першы тыдзень вайны Заходні фронт панёс вялізныя страты ў асабовым складзе. Толькі баявыя страты склалі звыш 500 тысячаў чалавек (77 працэнтаў штатнага складу). У першыя дні вайны ў дзейную армію на тэрыторыі Беларусі было мабілізавана звыш 400 тысячаў чалавек, і большая частка зь іх загінула альбо апынулася ў палоне, так і не патрапіўшы ні ў якія сьпісы. Вось чаму можна дапусьціць, што лічба загінулых у баях у чэрвені-ліпені 1941 году складзе звыш 600 тысячаў, а палонных — ня менш за 400 тысячаў чалавек.

У канцы чацьвертага дня вайны як на правым, так і на левым крыле Заходняга фронту нямецкія танкавыя злучэньні прасунуліся ў глыбіню савецкай тэрыторыі да 200 км. Узьнікла пагроза поўнага акружэньня савецкіх войскаў. Дырэктыва войскам на агульны адыход была атрыманая зь вялікім спазьненьнем, у выніку чаго была практычна цалкам зьнішчаная і ўзятая ў палон Беластоцкая групоўка войскаў.

Пасьля двухдзённых баёў на подступах да Менску ударным групоўкам 3-й і 2-й нямецкіх танкавых групаў удалося на шэрагу ўчасткаў прарваць абарону 13-й арміі. 28 чэрвеня яны злучыліся ў раёне сталіцы Беларусі, перахапіўшы шляхі адыходу большасьці дывізіяў 3-й і 10-й арміяў, якія атрымалі загад трымацца да канца, ня маючы боезапасаў і зброі. Дзясяткі тысячаў салдатаў і афіцэраў былі кінутыя на волю лёсу ў раёне Налібоцкай пушчы.

Хутка яны папоўнілі дзясяткі лягераў для ваеннапалонных, якія былі насыпех створаныя на тэрыторыі рэспублікі. Нечуваныя зьверствы і лютасьць учынялі гітлераўцы ў лягерах для ваеннапалонных. Пра іх утрыманьне там можна меркаваць, у прыватнасьці, з прыкладу стацыянарнага лягеру «Шталяг №352», які знаходзіўся за пяць кілямэтраў на паўночны захад ад Менску паблізу вёскі Масюкоўшчына. Гэты лягер — узор тыповых нацысцкіх лягераў сьмерці для ваеннапалонных. Іх разьмяшчалі ў бараках, разьлічаных на 60-70 чалавек, па 400-500. Зімой 1941-1942 гадоў у лягеры «Шталяг №352» 80 працэнтаў палонных утрымлівалася пад адкрытым небам. У лістападзе-сьнежні 1941 году тут загінула каля 25 тысячаў ваеннапалонных, у студзені 1941-га — сакавіку 1942 году — яшчэ звыш 30 тысячаў. За тры гады існаваньня лягеру ў ім загінула больш за 80 тысячаў савецкіх ваеннапалонных. У цяперашні час устаноўленыя імёны ня болей за 8 тысячаў загінулых.

Згодна з выніковай зводкай нямецкага камандаваньня, усяго за гады вайны ў палон патрапілі 5.754 тысячы савецкіх салдатаў і афіцэраў, у тым ліку ў 1941-м — 3.335 тысячаў, а ў 1945-м —34 тысячы.

Паводле іншых зьвестак зь нямецкіх крыніцаў, да 1 сьнежня 1941 году было захоплена ў палон 3.807 тысячаў савецкіх вайскоўцаў.

Улічваючы, што большасьць палонных у 1941 годзе загінула ад рэпрэсіяў, голаду, хваробаў (да вясны 1944 году ў лягерах засталося толькі 1,1 мільёна чалавек), лічбу ў 3.335 тысячаў палонных трэба лічыць заніжанай за кошт памерлых у лягерах безь неабходнай рэгістрацыі, а таксама тых 200 тысячаў палонных, якія яшчэ ў 1941 годзе былі залічаныя у нямецкую армію ў якасьці дапаможнага пэрсаналу — «дабраахвотных памочнікаў».

Таму агульную колькасьць палонных трэба павялічыць да 6,2 мільёнаў чалавек, зь якіх ад 100 да 200 тысячаў зьбеглі з палону, 1.836 тысячаў пасьля вайны вярнуліся на Радзіму (да 70 працэнтаў зь іх папоўнілі шэрагі савецкага ГУЛАГу. — **І.К.**), ад 100 да 200 тысячаў (амаль выключна выхадцы з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны) засталіся ў акупацыйных зонах Нямеччыны і Аўстрыі і так і не змаглі вярнуцца на Радзіму, і прыкладна 4 мільёны загінулі ў фашысцкім палоне.

Як ні сумна прызнаваць, — усё гэта было. Былі сотні тысячаў загінулых у баях за Радзіму, былі тысячы расстраляных на загад №270 ад 16 жніўня 1941 году, дзясяткі тысячаў асуджаных былых ваеннапалонных. І забываць пра гэта мы ня маем права, бо гэта нашыя дзяды, іх сябры, знаёмцы, суседзі. Таму згадаем сёньня добрым словам салдатаў і афіцэраў, якія загінулі у лягерах, турмах, на катарзе. І перададзім гэтую памяць нашым дзецям.



*Лета 1941 г. Савецкія палонныя капаюць сабе магілу.*

### З дакумэнтаў

*Зь дзёньніка начальніка Генэральнага штаба сухапутных войскаў Нямеччыны генэрал-палкоўніка Ф.Гальдэра*

«27 чэрвеня 1941-га году, 6-ы дзень вайны.

На фронце групы арміяў «Цэнтар» апэрацыя разгортвалася згодна з плянам. Праціўнік пакінуў Беласток, тым самым мяшок на Захадзе звужаецца. Праціўнік спрабуе выйсьці з акружэньня праз Наваградак і Ружаны ў паўночна-ўсходнім і паўднёва-ўсходнім кірунках. Нягледзячы на абвастрэньне становішча на асобных участках нашага фронту, гэтыя спробы праціўніка безвыніковыя.

2 ліпеня 1941-га году, 11-ы дзень вайны.

У паласе групы арміяў «Цэнтар» завершана ліквідацыя акружанай групоўкі праціўніка ў раёне Беластоку. Глаўкам занепакоены адносна акружанай групоўкі праціўніка, якая засталася ў раёне Навагрудку».

#### Дакумэнт Вэрмахту

*Камандзір войскаў групы арміяў «Цэнтар»*

*Штаб-кватэра*

*8 ліпеня 1941 г.*

*Загад*

Бой у раёне Беласток-Менск завершаны. Войскі групы арміяў змагаліся з чатырма расейскімі арміямі, у склад якіх уваходзіла каля 32 стралковых, 8 танкавых дывізіяў, 6 мотамэханізаваных брыгадаў і 3 кавалерыйскія дывізіі. Зь іх разгромлена:

22 стралковыя дывізіі,

7 танкавых дывізіяў,

6 мотамэханізаваных брыгадаў,

3 кавалерыйскія дывізіі.

Баявая моц астатніх злучэньняў, якім удалося пазьбегнуць акружэньня, таксама значна паслаблена. Страты праціўніка ў жывой сіле вельмі вялікія.

Падлік палонных і трафэяў да сёньняшняга дня выявіў:

287.704 палонных, у тым ліку некалькі камандзіраў корпусу і дывізіяў...

Нашыя страты былі не вышэйшыя за тыя, якія здольныя панесьці мужныя войскі...

*Фон Бок,*
*генэрал-фэльдмаршал*

#### Дакумэнт Чырвонай Арміі

*Апэратыўная зводка штабу 4-й арміі Заходняга фронту №01*

*24 чэрвеня 1941 г.*

1. Рэшткі частак 28 ск, 6 і 42 сд пасьля абарончых баёў... ня маюць баяздольнасьці.

2. 75 сд — зьвестак няма...

3. 55 сд... не вытрымала наступу мотамэхчастак праціўніка пры моцнай авіяцыйнай падрыхтоўцы, пачала адыход...

5. 14 мк, актыўна абараняюся, неаднаразова пераходзячы ў контранаступ, панёс вялікія страты ў матэрыяльнай частцы і асабовым складзе і да 25.6 не ўяўляў баяздольнага злучэньня...

6. З 49 сд з моманту выхаду па трывозе сувязі няма...

Хаатычны адыход падразьдзелу, а часам і часткі, прыходзіцца спыняць і паварочваць на фронт камандзірам усіх ступеняў, пачынаючы ад камандзіра арміі, хоць гэтыя меры, нават насуперак прымяненьню зброі, належнага эфэкту не далі...

*Начальнік штабу 4-й арміі*
*палкоўнік Сандалаў*

*З загаду Стаўкі Вярхоўнага Галоўнага Камандаваньня Чырвонай Арміі №270*

*16 жніўня 1941 г.*

... Загадваю:

1. Камандзіраў і палітработнікаў, якія падчас бою зрываюць зь сябе знакі адрозьненьня і дэзэртуюць у тыл альбо здаюцца ў палон ворагу, лічыць злоснымі дэзэртырамі, сем'і якіх падлягаюць арышту як сем'і тых, хто парушыў прысягу і прадаў сваю Радзіму.

Абавязаць усіх вышэйшых камандзіраў і камісараў расстрэльваць на месцы падобных дэзэртыраў.

2. ... калі начальнік альбо частка чырвонаармейцаў замест арганізацыі адпору ворагу палічаць за лепшае здацца ў палон —зьнішчыць іх усімі сродкамі, як наземнымі, так і паветранымі, а сем'і тых чырвонаармейцаў, хто здаўся ў палон, пазбавіць дзяржаўнай дапамогі.

3. Абавязаць камандзіраў і камісараў дывізіяў тэрмінова зволніць з пасадаў камандзіраў батальёнаў і палкоў, якія хаваюцца ў шчылінах падчас бою і баяцца кіраваць ходам бою на полі бітвы, зьніжаць іх у пасадзе як самазванцаў, пераводзіць у шарагоўцы, а пры неабходнасьці расстрэльваць іх на месцы...

*Стаўка Вярхоўнага Галоўнага Камандаваньня Чырвонай Арміі*

*Старшыня Дзяржаўнага Камітэту Абароны І.Сталін*

*Заг. Старшыні Дзяржаўнага Камітэту Абароны В.Молатаў*

*Генэрал-палкоўнік М.С.Шумілаў (былы камандзір 11-га стралковага корпусу 8-й арміі):*

«Боезапасы загадвалася не выдаваць... Аднак 20 чэрвеня, усьвядоміўшы набліжэньне небясьпекі, я загадаў выдаць патроны і снарады ў падразьдзелы і пачаць мінаваньне асобных накірункаў.

21 чэрвеня ў штабе корпусу знаходзіўся член Ваеннага савету акругі... які праз начальніка штабу загадаў адабраць боезапасы. З апытаў штаб арміі адносна распараджэньня па гэтым пытаньні, але адказу не атрымаў».

*Дырэктыва Вярхоўнага Галоўнага Камандаваньня Чырвонай Арміі -*

*1 траўня 1945 г.*

«Камандзір войскаў 1 і 2 Беларускіх, 1, 2, 3 і 4 Украінскіх франтоў. Тав. Берыя, тав. Мяркулаву, тав. Абакумаву, тав. Голікаву, тав. Хрулеву, тав. Голубеву.

Ваеным Саветам франтоў сфармаваць у тылавых раёнах лягеры для разьмяшчэньня і ўтрыманьня савецкіх грамадзянаў на 10.000 чалавек кожны. Усяго сфармаваць: у 2 Беларускім фронце — 15, у 1 Беларускім фронце — 30, у 1 Украінскім — 30, у 4 Украінскім фронце — 5, у 2 Украінскім — 10, у 3 Украінскім фронце — 10 лягераў...

Праверку былых вайскоўцаў Чырвонай Арміі даручыць органам контрразьведкі «СМЕРШ», грамадзянскіх асобаў — камісіі НКВД, НКГБ, «СМЕРШ»...

*І.Сталін*

*Пастанова Дзяржаўнага Камітэту Абароны №1926 сс ад 24 чэрвеня 1942 г.*

*«Аб членах сем'яў здраднікаў Радзімы»*

1. Устанавіць, што паўналетнія члены сем'яў асобаў (вайскоўцаў і цывільных), асуджаных ваеннымі органамі альбо Асобай нарадай пры НКВД СССР да вышэйшай меры пакараньня арт. 58-1 «а» КК РСФСР і адпаведным артыкулам КК іншых саюзных рэспублік за пераход на бок ворага, якія здаліся ў палон альбо патрапілі ў акружэньне і за спробу здрады Радзіме і здрадніцкія настроі, падлягаюць арышту і высылцы ў аддаленыя мясцовасьці СССР на тэрмін 5 гадоў.

Членамі сем'яў здрадніка Радзімы лічацца: бацька, маці, муж, жонка, сыны, дочкі, браты і сёстры, калі яны жылі сумесна са здраднікам Радзімы альбо знаходзіліся на яго ўтрыманьні да моманту зьдзяйсьненьня злачынства ці да моманту мабілізацыі ў армію ў сувязі з пачаткам вайны.

**Публікацыю падрыхтаваў Ігар Кузьняцоў**

НАША НІВА 23 верасьня 1996 N 25 (63)

# Бэстсэлеры Беларусі

**(II квартал 1996 г.)**

*на падставе зьвестак найбуйнейшых менскіх кнігарняў. Улічваліся толькі кнігі беларускіх выдавецтваў і колькасьць прададзеных асобнікаў*

### МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

1. **Уладзімер Караткевіч. Творы:** Проза, драматургія, публіцыстыка. — Менск: Мастацкая літаратура, 1996. — 7.000 ас.
2. **Янка Купала. Поўны збор твораў** у 9 тамах. Т. 1. Вершы, пераклады (1904-1907). — Менск: Мастацкая літаратура, 1995. — 6.000 ас.
3. **Вітаўт Чаропка. Перамога ценю:** Аповесьці, апавяданьні, эсэ. — Менск: Мастацкая літаратура, 1996. — 4.000 ас.
4. **Генадзь Шупенька. Прага мастацкасьці.** Выбранае. — Менск: Мастацкая літаратура, 1996. — 3.000 ас.

### ЛІТАРАТУРА ФАКТУ

1. **Беларуская энцыкляпэдыя.** У 18 т. Т.1: А — Аршын. — Менск: БелЭн, 1996. — 10.000 ас.
2. **Курс беларускай мовы:** Падручнік / Л.Сямешка, І.Шкраба, З.Бадзевіч. — Менск: Унівэрсытэцкае, 1996. — 10.000 ас.
3. **Гісторыя Беларусі:** Навучальны дапаможнік. — Менск: НПЧ «Фінансы, улік, аўдыт», 1996. — 10.000 ас.
4. **Каталёг паштовых марак** Рэспублікі Беларусь 1994-1995. — Менск: ДП «Менская пошта», 1996.
5. **Чарнобыль. Погляд праз дзесяцігодзьдзе:** Даведнік. — Менск: БелЭн, 1996. — 5.000 ас.

Прабягаючы вачыма па радках сьпісу кніжных бэстсэлераў другога кварталу 1996 г. цяжка адмежавацца ад эмацыйнага фону ўспрыняцьця інфармацыі — гэта сьпіс кніжак, якія найбольш куплялі падчас Менскае вясны. Калі на вуліцах Менску адбываліся масавыя дэманстрацыі, а па вечарох праводзіліся масавыя арышты, у гэты самы храналягічны пэрыяд у кнігарнях людзі набывалі патрэбную сабе літаратуру. Што важна — сьпіс такіх патрэбных кніжак вельмі традыцыйны для беларускага рынку. Гэта знак сталых інтарэсаў грамадзтва ў межах беларускага інфармацыйнага поля. На гэтыя інтарэсы ня могуць апэратыўна ўплываць самыя дынамічныя палітычныя падзеі ў краіне.

Чакалася, што на першыя пазыцыі выйдзе ўнівэрсальная Энцыкляпэдыя, бо ў другой палове XX ст. даведачную літаратуру купляюць найбольш. Таксама важна, што 1 том «Беларускай энцыкляпэдыі» ў параўнаньні з «Гістарычнаю энцыкляпэдыяй» зьведаў меншыя дэструктныя ўплывы новага кіраўніцтва БелЭн.

Цікавым фактам стаў посьпех «Курсу беларускае мовы». Але пра рэаліі мне нагадалі студэнты. Канец вясны й пачатак лета —гэта пэрыяд здачы іспытаў у школах ды падрыхтоўкі да паступленьня ў вышэйшую школу. А ўжо па сьлядох падзеяў можна прыгадаць статыстыку ўступных іспытаў — у Беларускай Політэхнічнай Акадэміі абітурыенты падзяліліся 50 на 50 паводле мовы здачы іспытаў. І гэта быў самы высокі працэнт актыўнасьці расейскае мовы. У іншых цывільных беларускіх ВНУ ад 70 да 80% абітурыентаў здавалі іспыт па беларускай мове. Таксама патрэбаю для навучальных мэтаў тлумачыцца камэрцыйны посьпех дапаможніка «Гісторыя Беларусі».

«Каталёг паштовых марак Рэспублікі Беларусі» можна выкарыстоўваць як дапаможнік для вывучэньня сучаснае гісторыі Беларусі. Подых часу адчувальны ў паступовай зьмене сюжэтаў і сымболікі на паштовых марках. Тут мы таксама назіраем працэс муміфікацыі жывых людзей.

Чарнобыльская праблематыка й літаратура пра яе патрабуе асобнага асэнсаваньня. Можна паспрабаваць зрабіць прагноз —тэма Чарнобыля зноў вяртаецца ў беларускую палітыку й культуру.

Такім чынам, кожная кніжная пазыцыя сьпісу бэстсэлераў у разьдзеле «Літаратура факту», пры ўсёй сваёй традыцыйнасьці, сьведчыць пра нейкія новыя зьявы ў беларускім грамадзтве ці сымбалізуе іх. Падобна, будуць і вынікі гэтых працэсаў.

Што да разьдзелу «Мастацкая літаратура», то тут попыт нават аддалена не нагадвае пра сучаснае жыцьцё «вобразаў і фікцыяў» і сьведчыць, што альбо такога жыцьця сёньня папросту няма, альбо яно цалкам прыбралася ў закрытыя формы і адбываецца недзе па-за межамі найбуйнейшых менскіх кнігарняў.

**Алег Дзярновіч**




# Якой веры?

Нягледзячы на тое, што ў Беларусі на пачатку стагодзьдзя канфэсійны склад насельніцтва быў надзвычай стракаты (асабліва ў параўнаньні з суседнімі краямі), паводле сваіх перакананьняў усе беларусы былі ўжо монатэістамі — верылі ў аднаго Бога.

І хрысьціяне, і юдэі, і мусульмане маюць адзіную сьвятую гісторыю Старога Запавету. Таму, нягледзячы на разнастайнасьць формаў рэлігійнага жыцьця, на чаргаваньне прывілеяваных вызнаньняў, ва ўмовах розных традыцыйных полюсаў прыцягненьня, у Беларусі засталося шмат тых, хто адстойвае сваю самасьць, права зьвярнуцца да адзінага Бога па-свойму.

Некаторыя вызнаньні налічвалі зусім мізэрны працэнт вернікаў, але гэта не азначала, што яны могуць быць нязначнымі для нашае культуры. Часам менавіта ў замкнёных невялікіх супольнасьцях нараджаліся пэрлы беларускае цывілізацыі: арыянскі «Катэхізіс» Буднага, мусульманскія «Кітабы», стараверскі іканапіс.

Павага да права кожнага славіць Бога па-свойму, гаварыць па-свойму і жыць па-свойму — ці ня лепшая з рысаў старое беларушчыны. За тое і любілі Беларусь тыя, хто лічыў яе сваёй Бацькаўшчынай, верылі ёй і баранілі яе.

Што гэта за бажніца? Дзе яна існуе? Вас чакаюць новыя пытаньні, а мы чакаем слушных адказаў.

**Сяргей Харэўскі**

No SMOKING

# Тыдзень небясьпечнага паленьня

Працяг са старонкі 4.

Самыя моцныя словы зь зьневажальнага лексыкону антыкурцоў: «А я і ня ведаў, што ты паліш». Ці то гэта гаворыць афіцыянт у рэстарацыі, ці то прыяцель у спартовай зале, ці то калега, які ведае, што працую над артыкулам пра паленьне. Пагарда, што ўтрымліваецца ў гэтых словах, амаль заўсёды — тэрмаядзерная. Гэтая фраза не эўфэмізм замест «мне шкада тых, хто нагэтулькі дурны, каб падвяргаць сваё здароўе небясьпецы раку». Гэта эўфэмізм замест «а я і ня ведаў, што ты сьмярдзючы сабака».

На чацьверты дзень майго экспэрымэнту я пачынаю пераходзіць у наступ. Я наведаў тытунёвую краму на Манхэтане ды загрузіўся элегантнымі Sobranie, дадатковым пачкам Gauloise, каробкай тонкіх цыгараў Schimmelpenninck і некалькімі Monte Cruze. А пасьля я задаў прадаўцу даволі дзіўнае пытаньне:

— Ці не маглі б вы парэкамэндаваць самыя агідныя цыгары, якія вы толькі маеце.

— Гэта залежыць ад таго, чаго вы хочаце дамагчыся, —адказвае прадавец. — Ці вы хочаце прыцягнуць увагу, ці хочаце расчысьціць месца вакол сябе?

— Я вельмі хачу абразіць людзей, што дзейнічаюць мне на нэрвы.

— Тады я вельмі рэкамэндую De Nobilis, — адказвае ён ды працягвае мне мэталёвую каробку карлікавых, жахлівага выгляду цыгараў. — Я іх палю, калі лаўлю рыбу. Запальваеце адну зь іх і застаецеся сам насам з рыбай. І больш нікога вакол.

Я загружаю свой арсэнал і крочу ў Цэнтральны Парк Адпачынку, што выкарыстоўваецца амаль выключна для бегу трусцой. Запальваю адну з De Nobilis і пачынаю шпацыраваць уздоўж дарожкі, выдзьмуваючы дым проста ў твары бегуноў.

Як толькі я запаліў сваю соску, мяне абмінае карантыш у італьянскай футболцы з сэкундамэрам і тэтральна кашляе. (Тэатральны кашаль робіцца лейтматывам майго шпацыру ў парку.) Чатыры чалавекі кашлялі, каб выказаць незадавальненьне. Адна, прабягаючы, прасіпела «мудак». Другая сказала «тут людзі бегаюць». Я прамармытаў у адказ: «Прабачце, я француз». Яшчэ адна жанчына, сапраўдны паркавы сабака, сказала так: «Ты што, ня здолеў знайсьці іншага месца для гэтага?» Я адказаў: «Так, але спазьніўся на самалёт да Лёс Анджэлесу». Але самая ўражвальная рэакцыя была з боку трох чалавек, якія фізычна пакінулі асфальтаваную дарожку ды збочылі ў гразь».

Калі я зайшоў у спартовы клюб YMCA (хрысьціянская маладзёжная арганізацыя — У.Б.) ды ўскараскаўся на вэлатрэнажор, хлопец побач адразу ж фыркнуў ды сышоў. Па меры таго, як вайна з паленьнем набірае абароты, я упэўнены, што неўзабаве замест шыльдачак «НЕ ПАЛІЦЬ» зьявяцца надпісы «НЕ ДЛЯ ТЫХ, ХТО НАКУРЫЎСЯ».

Я вам скажу, чаго яшчэ мы мусім чакаць. У 50-я гады дзяцей вучылі, што Дэві Крокэт, Дэніэль Бун ды Буфала Біл былі сапраўднымі амэрыканскімі героямі: сьмелымі, харобрымі, вольнымі. Пасьля ў 60-я паўстае рух Карэнных Амэрыканцаў (індзейцаў — У.Б.), і аказваецца, што гэтыя хлопцы — банда расістаў ды забойцаў. Тое самае адбываецца цяпер. Па меры таго, як антынікатынавы рух набірае сілу, сцэны фільмаў, дзе галоўныя героі паляць, будуць перароблены на такія, дзе тыя ж хлопцы смокчуць ледзянцы на палачках. На пачатку наступнага тысячагодзьдзя ў школах будуць выкладаць, што хоць аматар цыгараў Уінстан Чэрчыль і быў Брытанскім Ільвом, нам бы напэўна ўсё ж такі лепей было б скарыцца пад гітлераўскі бот.

У апошні дзень майго экспэрымэнту я з сваёй сяброўкай пайшоў у піцэрыю. Яна заказала лязанью, я манікоці. Тое месца было не для курцоў. Сядзім мы, прыязна гамонім. Ажно раптоўна я адчуваю знаёмы смурод. На гэты раз не ад мяне. Ён сыходзіў ад маладога чалавека за столікам побач. Я доўгі час нічога не казаў. Я проста жаваў. Але калі мая сяброўка пайшла, я павярнуўся да яго і сказаў: «Прабачце, але тут ня паляць».

Ён просіць прабачэньня ды пачынае гасіць цыгарэту. Але я не магу ўтрымацца ад апошняга выпаду: «... і ты мусіў бы гэта ведаць!»

*The American Spectator*

**Пераклаў Уладзімер Бараніч**





© НАША НІВА Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая Наклад 5100 Нумар падпісаны ў друк 19⁵⁵, 22/9/1996. Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку" Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 6270 Кошт свабодны.